ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 365
Год выд. XXXVIII

Снежань
1989




У Менску 25-26 лістапада адбылася Асамблея народаў «Чарнобыльскі шлях», у якой узялі ўдзел народныя дэпутаты СССР Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Станіслаў Шушкевіч, Віктар Карніенка, жыхары забруджаных радыяцыяй раёнаў, а таксама прадстаўнікі грамадзкіх рухаў з Украіны, Літвы, Малдавіі, Эстоніі, Латвіі і РСФСР.

На паседжаньні грамадзкага трыбуналу Асамблеі, у склад якога ўвайшлі, апрача вышэй названых дэпутатаў, ад Беларускага Народнага Фронту Міхась Ткачоў, Юры Хадыка, Зянон Пазьняк і Генадзь Грушавы, віцэ-прэзыдэнт АН БССР Іван Ліштван, ксёндз Ян Матусэвіч ды прадстаўнікі ад нацыянальных рухаў і экалягічных таварыстваў Літвы, Малдавіі, Украіны й Эстоніі.

Калегія трыбуналу заслухала сьветчаньні пацярпелых жыхароў Веткі, Хойнікаў, Слаўгарада, Чудзян, вёскі Сівіцы Валожынскага раёну ды іншых, а таксама ліквідатараў, якія гасілі чарнобыльскі пажар.

Асамблея народаў прыняла дэклярацыю, поўны тэкст якое зьмяшчаем ніжэй.

Асамблея прыняла таксама Зварот на народаў сьвету з заклікам аб гуманітарнай і мэдычнай дапамозе, забесьпячэньні дазімэтрычнай і дыягнастычнай апаратурай, аб дапамозе ў стварэньні прадпрыёмстваў для вырабу такой апаратуры.

Удзельнікі Асамблеі прынялі таксама Зварот да другога зьезду народных дэпутатаў СССР, каб ён паставіў на парадак дня пытаньне аб ліквідацыі насьледкаў чарнобыльскай аварыі і перасяленьні людзей з заражаных раёнаў.

Прадстаўнікі народных франтоў і экалягічных рухаў падпісалі пратакол аб правядзеньні сумесных экалягічных акцыяў, прысьвечаных чацьвертай гадавіне Чарнобыля. У пратаколе сказана, што прызнаюцца недастатковымі магчымасьці БССР ліквідаваць самой вынікі аварыі.

Запрапанавана адзначаць дзень 26 красавіка як Міжнародны дзень памяці.

На чацьвертыя ўгодкі аварыі адбудзецца экалягічная канфэрэнцыя ў Кіеве.

Пратакол падпісалі прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Украіны, Малдавіі. Да яго далучыліся прадстаўнікі Латвіі.

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ
### АСАМБЛЕІ НАРОДАЎ «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

Катастрофа на атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі 26 красавіка 1986 году падзяліла гістарычны час усходнеэўрапейскіх народаў. Выбух нябачанай сілы, што пакрыў радыёактыўным пылам вялізарныя тэрыторыі Беларусі, паўночна-ўсходняй Украіны і заходніх вобласьцяў РСФСР, які скалануў усю плянэту, гэты выбух паставіў кропку ў гісторыі разьвітога сацыялізму.

Найбольш пацярпелая тэрыторыя — гэта зямля старажытных культураў трох народаў, на якой жывуць мільёны людзей. Стан іхняга здароўя, як і жыцьця, няспынна пагаршаецца. Расьце сьпіс ахвяраў, тых, хто за бязьдзейнасьць уладаў, замоўчваньне праўды партыйным апаратам, абыякавасьць адказных мэдыцынскіх работнікаў, заплаціў сваім жыцьцём і здароўем.

Аднак, ні голас грамадзкасьці, ні трывожныя навуковыя зьвесткі, ні роспачныя лісты з заражаных раёнаў ня могуць дайсьці да сьвядомасьці і сэрца тых, хто кіруе камандна-адміністрацыйный сыстэмай. Да гэтай пары не адселеныя вёскі, дзе ўзровень забруджаньня значна вышэйшы, чым дапускаецца нават бесчалавечнай 35-бэравай канцэпцыяй. Ня прыймаюцца меры дзеля аздараўленьня дзяцей і цяжарных жанчын. Працягваецца злачынная практыка вытворчасьці збожжа, малака й мяса на забруджаных тэрыторыях. Уведзеныя так званыя «часова дапушчальныя» ўзроўні ўтрыманьня радыёнуклідаў у прадуктах харчаваньня.

Сотні мільёнаў рублёў і дэфіцытныя будматар'ялы і надалей марнуюцца ў заражанай зоне. Прычына ўсяго гэтага — у бяздушнасьці тых, хто знаходзіцца пры ўладзе, у іхным карысьлівым і баязьлівым жаданьні пазьбегнуць адказнасьці за бязьдзейнасьць, дэзынфармацыю, некампэтэнтнасьць і памылкі.

Канцэпцыя, распрацаваная Міністэрствам аховы здароўя СССР — 35 бэр за 70 гадоў жыцьця ўяўляе сабой навукова неабгрунтаваны перанос нормаў, прынятых для дарослага і здаровага чалавека, які сьведама, у сувязі са спэцыфікай сваёй прафэсійнай дзейнасьці, рызыкуе здароўем, на ўсю папуляцыю — разам з хворымі, старымі і дзецьмі.

(Працяг на 2-й б.)

## НАСУПЕРАК РУХУ — «ВАНДЭЯ»

Набліжаюцца выбары ў Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Гэтыя выбары будуць мець рашаючае значэньне ў жыцьці нашай Рэспублікі. Паўстае пытаньне, ці зможа народ забясьпечыць сваё поўнае, ці хаця-б пераважнае прадстаўніцтва ў Саветах. На першы погляд становішча склалася няспрыяльнае. Кіруючая партакратыя ў БССР правяла шэраг антыдэмакратычных законаў. Як і раней, у афіцыёзным друку ідзе татальная дэзынфармацыя насельніцтва аб Беларускім Народным Фроньце, аб палітычных працэсах у Беларусі. Асабліва дэзынфармаваныя жыхары сельскай мясцовасьці, у вобласьцях. Як і раней, усё прыдушвае і ўсім распараджаецца партыйна-бюракратычны апарат, які на Беларусі надзвычай рэакцыйны і антынародны, выгадаваны на нацыянальным нігілізьме і партыйнай дэмагогіі.

Асаблівасьцю беларускага партапарату, ці як яго ахрысьцілі, «вандэі», зьяўляецца адсутнасьць у ім колькі-небудзь прыкметных дэмакратычных плыняў, ці нават асобаў. Яго зьвздная, непрабудная рэакцыйнасьць з гэтай прычыны кідаецца ў вочы і проста ашаламляе. Рэакцыйны фэнамэн «вандэі» мае сваё тлумачэньне. Ён зыходзіць зь бюракратычнай ідэялёгіі нацыянальнага нігілізму, чым здавён (з 30-х гадоў) характарызуецца гэтак званая «беларуская» партбюракратыя. Чалавек, які выракся культуры свайго народу, узьненавідзеў мову, спрыяў этнічнаму паміраньню нацыі, такі чалавек ня можа мець дэмакратычнага сьветапогляду, ня можа быць вольным.

Нацыянальны нігілізм і рэакцыйная аднароднасьць камуністычнай партакратыі на Беларусі самым некарысным чынам адбілася на становішчы ў Рэспубліцы. Партбюракратыя нясе ўсю адказнасьць за паніжэньне і разбурэньне беларускай нацыянальнай культуры, за русыфікацыю грамадства і зьнішчэньне беларускай мовы, за закрыцьцё беларускіх школаў, за знос помнікаў архітэктуры і зьнішчэньне нацыянальнай спадчыны, рэлігіі, традыцыйнай народнай маралі, за матэрыялістычнае разбэшчваньне моладзі і дэгуманізацыю грамадзкіх узаемадачыненьняў.

У прыбалтыйскіх рэспубліках і нават у традыцыйна кансэрватыўнай Украіне, у кіруючым там партыйным апараце выяўляюцца пэўныя сілы, якія спрыяць адраджэньню нацыі, адмаўляюць мэтады і погляды намэнклятурных артадоксаў, рэальна садзейнічаюць галоснасьці і дэмакратызацыі. У выніку закладваюцца асновы для эвалюцыі стваральных кансалідуючых працэсаў. Бо знойдзеныя сфэры ўзаемадачыненьняў паміж рознымі, нават супроцьстаячымі, палітычнымі сіламі (у дадзеным выпадку паміж кампартыяй і грамадзкімі рухамі).

Нічога падобнага не назіраецца ў Беларусі. Сымпатычна, што, калі 19-га кастрычніка 1988 году было абвяўлена аб утварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, камуністычная намэнклятура распачала шалёную траўлю ўсіх дэмакратычных сілаў, асабліва інтэлігенцыі. Нам ня трэба ніякага народнага фронту, — чулася з усіх афіцыйных трыбунаў і розных «комаў». Пасыпаліся «лісты абураных працоўных» і паднялася хваля арганізаванага «народнага гневу». І гэта ў той час, калі новастворены Аргкамітэт БНФ не сказаў яшчэ ніводнага слова пра свае мэты, пра задачы дзейнасьці. Ня трэба нічога! Такі быў сэнс гэтага намэнклятурнага галасу. «Мартыралёг»? — Ня трэба! «Нам с вами не по пути!» — сьпяшаліся перакрычаць усіх прыгрэтыя апаратам дочкі двух рэпрэсіяваных у 30-х гадох кіраўнікоў БССР, ахайваючы ўтварэньне таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі». Кульмінацыі гэтая кампанія дасягнула 30 кастрычніка 1988 г., калі супраць мірных людзей, што ў дзень «Дзядоў» ішлі на могілкі з кветкамі, «кінулі» тры тысячы міліцыянераў, спэцвойскі, вадамёты, «чорныя крумкачы», труцілі народ сьлёзацечным газам, білі дубінкамі, зьневажалі. Такое не забудзецца і не даруецца ніколі.

Спробы Беларускага Народнага Фронту наладзіць кантакты зь дзяржаўнымі органамі і кіраўніцтвам КПБ ні да чаго не прывялі. Камуністы прытрымліваліся сваіх традыцыйных паводзін — гаварыць адно, а рабіць іншае, прытым па ўсіх сродках друку распаўсюджвалася дэзынфармацыя і інсынуацыі пра БНФ.

Маску зь сябе партапарат скінуў увосень гэтага году, калі на пленумах гаркому і ЦК сталі адкрыта гаварыць пра БНФ як пра «наших политических противников» і заклікаць камуністаў да барацьбы з Фронтам. На кастрычніцкай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР адзін нават так сказаў: «Если нас назовут 'вандеей', значит мы на правильном пути, товарищи».

Усё гэта лішні раз сьветчыць ня толькі пра антынароднасьць, адкрытую рэакцыйнасьць і нізкі інтэлектуальны патэнцыял «вандэі», пра няўменьне будаваць палітычныя пэрспэктывы, усё гэта пацьвярджае, што кіраўнічае банкруцтва камуністычнага апарату ў Беларусі надзвычай зацягнулася, прадаўжае раскладацца і можа пагражаць народу вялікімі бедамі.

У такіх варунках стабілізуючую ролю магла-б выканаць якраз дэмакратычная апазыцыя ў КПБ — перабудовачныя сілы, сьвежыя думкі і разумныя галовы. Ды вось бяда, такіх сілаў у КП БССР практычна няма. Партыя, асабліва на правінцыі, уяўляе сабой аднародную, кансэрватыўную масу, балота, няздольнае па прыродзе сваёй падняцца да асэнсаваньня лёсу беларускай нацыі і вольнай будычыні людзей.

(Працяг на 3-й б.)

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АСАМБЛЕЯ «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

На практыцы гэтая канцэпцыя вядзе да росту захворваньняў і сьмяротнасьці насельніцтва, да сацыяльна-псыхалягічнага напружаньня, а таксама да зьніжэньня працаздольнасьці. У заражаныя раёны завозіцца адносна чыстая, а вывозіцца радыяцыйна забруджаная харчовая прадукцыя. Вялізарныя сумы ідуць на даплаты і сацыяльна-бытавое ўпарадкаваньне, што аднак не ратуе становішча. Пацярпелыя раёны ператвараюцца ў вялізарны радыяцыйны лепразорый, у якім, дзеля выкананьня дзяржпляноўскіх дырэктываў, ахвяроўваюць здароўем людзей, бяссэнсава марнуючь народныя сродкі.

Канцэпцыя-ж беларускіх вучоных зыходзіць з патрабаваньня адсяленьня людзей з тэрыторыяў, радыяцыйная забруджанасьць якіх накладае абмежаваньні на нармальную жыцьцядзейнасьць чалавека і робіць немагчымай вытворчасьць «чыстай» сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэтая канцэпцыя ўлічвае многія фактары, якімі пагарджае 35-бэравая канцэпцыя.

Супрацьстаяньне гэтых дзьвюх канцэпцыяў носіць не навуковы, а ведамасны палітычны й маральны характар. 35-бэравая канцэпцыя выкарыстоўваецца дзеля апраўданьня крывадушша і злачынных бяздзеяньня як саюзных, гэтак і рэспубліканскіх уладаў, дзеля захаваньня ў дзяржаўным абарачэньні земляў, страта якіх куды больш, чым лёс людзей, турбуе гаспадароў з цэнтральнага бюракратычнага апарату.

Створаная іхнімі высілкамі атмасфэра глухой сакрэтнасьці вакол вынікаў катастрофы стала крыху рассейвацца толькі ў апошні год. Але й сёньня шмат што раўніва захоўваецца ведамаснымі інструкцыямі і абмежаваньнямі. І сёньня зьяўляецца сакрэтным загад Міністэрства аховы здароўя БССР, які забараняе адзначаць у лячэбных картках факт абпраменяненьня людзей, што прыймалі ўдзел у пасьляаварыйных працах, калі сумарнае абпраменяненьне, атрыманае імі, не перавышае пэўнага ўзроўню.

Лёс гэтых людзей трагічны. Сотні людзей ужо памерлі, а шмат іншых цяжка захварэлі. Вынікі практычнага бязьдзеяньня органаў улады ўзмацняе таксама юрыдычная нераспрацаванасьць пытаньня аб правох чалавека, які бязьвінна і супраць сваёй волі апынуўся на радыяцыйна заражанай тэрыторыі. Ніхто ня можа даць гарантыі бясьпекі чалавеку, які жыве на тэрыторыі зь любым узроўнем забруджаньня. Таму ўсе людзі, што пажадаюць пакінуць забруджаныя землі, павінны мець права карыстацца дапамогай дзяржавы і грамадзтва. Уважліва разгледзеўшы ўсе разнастайныя аспэкты пераадоленьня вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС — навуковыя, мэдыцынскія, сацыяльна-палітычныя, культурныя, юрыдычныя — Асамблея народаў «Чарнобыльскі шлях»:

1. Заяўляе аб немагчымасьці мэханічнага пераносу нормаў абпраменьваньня, абгрунтаваных для прафэсіяналаў, якія рызыкуюць добраахвотна, на ўсё насельніцтва, дзе ёсьць хворыя, дзеці, цяжарныя жанчыны, якія вымушаныя спажываць радыяцыйна забруджаную ежу і пераносіць іншы небясьпечны ўплыў з боку навакольнага асяродзьдзя.

Лічыць сьвядомае ігнараваньне гэтых фактараў у навуковых канцэпцыях і дзяржаўных рашэньнях дзеяньнямі, якія маюць прыкметы генацыду і зьяўляюцца злачынствам супраць чалавечнасьці бяз тэрміну даўнасьці.

2. Прызнае гуманнай і навукова абгрунтаванай канцэпцыю пераадольваньня вынікаў, распрацаваную беларускімі вучонымі, якія зыходзяць зь неабходнасьці адсяляць людзей адусюль, дзе немагчымая вытворчасьць радыяцыйна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі. Лічыць неабходным прадугледзець пры адсяленьні захаваньне сацыяльных інфраструктураў адселеных рэгіёнаў.

3. Патрабуе цалкам скасаваць усе формы сакрэтнасьці і абмежаваньня інфармацыі, прыцягнуць да судовай адказнасьці службовых асобаў, вінаватых ва ўтойваньні альбо выкрыўленьні інфармацыі адносна Чарнобыльскай катастрофы.

4. Заяўляе пра неабходнасьць распрацоўкі юрыдычных нормаў, што гарантуюць правы людзям, якія не па сваёй волі апынуліся на радыяцыйна заражанай тэрыторыі. Нормы павінны прадугледжваць права людзей на дапамогу з боку дзяржавы ў лячэньні хваробаў, выкліканых радыяцыяй, а таксама на кампэнсацыю за страту маемасьці і за сацыяльную адаптацыю на новым месцы. Законы павінны адпавядаць міжнародна прызнаным нормам аб правох чалавека. Вінаватыя ў парушэньні нормаў мусяць несьці адказнасьць, адпаведную міжнароднаму праву.

Патрабуе ўраўняць у правох людзей, што прыймалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і страцілі здароўе ў выніку абпраменяненьня, зь інвалідамі вайны, а таксама распаўсюдзіць на іх сем'і і льготы ў выпадку заўчаснай сьмерці кармільца.

6. Вымагае неадкладнага спыненьня эксплюатацыі Чарнобыльскай АЭС і наданьня заражанай зоне статусу экалягічна-радыяцыйнага заказьніка.

7. Лічыць неабходным стварэньне ў рэспубліцы нацыянальнага камітэту па радыяцыйнай абароне насельніцтва.

8. Патрабуе прызнаньня прызыўнікам Беларускай і Украінскай ССР і забруджаных вобласьцяў РСФСР, у якасьці альтэрнатывы вайсковай службы, права працаваць на будаўніцтве аб'ектаў для перасяленцаў з радыяцыйна забруджаных раёнаў.

9. Адзінай гарантыяй выратаваньня людзей можа быць толькі сувэрэнітэт рэспублікаў, у прыватнасьці, передача ім асноўных вытворчых фондаў, што знаходзяцца на іхных тэрыторыях. Разам з тым, саюзныя органы забавязаныя несьці адказнасьць за тое, што здарылася і павінны кампэнсаваць рэспублікам і іх грамадзянам страты, зьвязаныя з Чарнобыльскай катастрофай.

10. Лічыць неабходным праводзіць паседжаньні Асамблеі народаў «Чарнобыльскі шлях» у пацярпелых рэспубліках штагоду.

11. Прыняць звароты да народаў сьвету і да другога зьезду народных дэпутатаў СССР.

12. Патрабуе неадкладнага стварэньня рэспубліканскіх камітэтаў нацыянальнага выратаваньня, якія павінны аб'яднаць намаганьні дзяржаўных і ўсіх грамадзкіх арганізацыяў, прадстаўнікоў духавенства, вернікаў і атэістаў.

Выратаваньне народу — у яговых руках.

Прынята Асамблеяй народаў «Чарнобыльскі шлях».

Менск, 26 лістапада 1989 году.



# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу

Дарагія Браты й Сёстры!
ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Сьвяты дзень нараджэньня Хрыстовага весьціць нам і ўсяму сьвету аб прыйсьці Божага збаўленьня. Гэта ня толькі дзень нашае радасьці, веры й надзеі, але й роздуму над вартасьцяй нараджэньня Караля каралёў, Хто прынёс новую мараль чалавеку і заклікаў яго да высокага духовага ўзроўню.

Чалавек, незалежна ад таго, у якіх абставінах ён жыве — на свабодзе ён ці ў зьняволеньні — заўсёды прагне лепшага заўтра, моліцца за лепшую будучыню, за больш высакародны сьвет, каб ня было боязі перад зьдзекамі й пакутамі, каб заўсёды панавалі любоў, братэрства паміж людзьмі ў духу малітвы, якую ў дзень нараджэньня Хрыстовага сьпяваюць вернікі ў сваіх сьвятынях: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой паміж людзьмі добрае волі» (Лк 2:14). Але перамога дабра над злом і цемрай даецца людзям ня лёгка — чалавеку патрэбная вера, малітва, сіла духу. Калі ён пакутуе, патрэбнае міласэрдзе, спагада, дапамога — тое, што мы маем ад Ісуса Хрыста.

Сёньня мы бачым, як сіла зла, што маною й подступам імкнулася заваладаць сьветам, сама раскладаецца. Уладары самі адчуваюць, што іхнай хвальшывай бязбожніцкай ідэялёгіі прыходзяць канцы. І калі мы бачым, як улада, што хвалілася перад сьветам сваёй справядлівасьцяй, а ў запраўднасьці нішчыла бязьвінных людзей фізычна й маральна, ня вытрымоўвае праўды, мы затрымваемся й разважаем над глыбокім значаньнем Хрыстовага нараджэньня й хрысьціянскае навукі.

Хрыстос прыйшоў вызваліць людзей зь няволі грэху і весьці іх да вышэйшага духовага ўзроўню. Бязьлітасныя дыктатары намагаліся й намагаюцца зьнішчыць годнасьць чалавека як стварэньня Божага, выкараніць у ім веру ў дабрыню вечнага Бога і ўгрунтаваныя на гэтай веры прынцыпы справядлівасьці. Але наш хрысьціянскі абавязак, дарагія мае, — стаяць у абароне праvоў чалавека, ягонае веры й маральных прынцыпаў, ягонае духовасьці.

«Ня можаце служыць Богу й мамоне», кажа Госпад. У цяперашнім сьвеце матар'ялізму Збаўца наш Ісус Хрыстос прыпамінае нам: «Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль ды іржа нішчаць і дзе зладзеі падкопваюцца й крадуць; але зьбірайце сабе скарбы на небе, дзе ані моль, ані іржа ня нішчаць і зладзеі не падкопваюцца й не крадуць» (Мц 6:19-20). Але скарб наш на небе ня будзе дасканалы, калі мы на зямлі не падтрымаем веры свае добрымі ўчынкамі. «Вера бяз учынкаў мёртвая», кажа сьв. апостал Якуб (Як 2:17).

Дарагія й любыя мае Браты й Сёстры! Сёньня, як ніколі, мы, Беларусы, незалежна ад рэлігійнага перакананьня ды іншых пагляду, дзе-б мы ні жылі, павінны супольна прыйсьці з дапамогай свайму Беларускаму Народу. Чарнобыльскі атамны пажар здарыўся пяць кілямэтраў ад мяжы Беларусі, і вецер пагнаў радыяцыю на нашу краіну. Ад гэтага пажару найбольш пацярпеў наш народ. У сваёй бязьмежнай бядзе ён гукае цяпер да нас з просьбай аб дапамозе, і мы павінны адгукнуцца на гэтую просьбу шчодрай ахвярай.

У гэты сьвяты дзень, дарагія мае, зьвернем свае сэрцы й думкі да Князя міласэрдзя й супакою, падзякуем Яму за дабрыню Ягоную, адновім веру ў Яго, умацуем сваю маральную вартасьць і акажам хрысьціянскія ўчынкі. Няхайжа дзень Нараджэньня Хрыстовага будзе радасным сьвятам усім Вам і Божае дабраславеньне з усімі Вамі.

Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце!

Каляды 1989 г.
Таронта, Канада

**Архіепіскап Мікалай**
**Першагіерарх БАПЦ**



**ФОРПОСТ. Газета белорусского независимого информагентства «Белорусская Звезда» (BELSTAR).** № 1 (жнівень) 1989 (8 бб.).

Менская самвыдавецкая публікацыя, што паставіла перад сабой за мэту «спрыяць усемагчымаму росту й пашырэньню публічнасьці й палітычнага плюралізму.

У нумары крытычны агляд Зьезду народных дэпутатаў СССР; перадрук артыкулу А Навіны (А. Луцкевіча) з 1913 году «Белорусское движение»; «Почему Менск стал Минском?» (перадрук з «Мартыралогу» № 1) ды іншыя палітычна актуальныя матар'ялы.

У БССР выходзіць цяпер каля 15 незалежных публікацыяў.

### ЯШЧЭ ДВА БІСКУПЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Ватыканскі карэспандэнт амэрыканскага прэсавага агенцтва NCA Чарльз Робэрт'елё ў сваім паведамленьні пра сустрэчу савецкага лідэра Гарбачова з Папам Янам Паўлам II піша, што Беларусь патрабуе яшчэ двух каталіцкіх біскупаў.

Паводля таго самага карэспандэнта, Гарбачоў атрымаў згоду Папы, каб дыяцэзіяльныя межы супадалі з савецкімі палітычнымі межамі. Дасюль частка беларускіх тэрыторыяў на царкоўна-адміністрацыйных картах Ватыкану належала да польскіх дыяцэзіяў.

# НАСУПЕРАК РУХУ — «ВАНДЭЯ»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Такое становішча вынікае ня толькі з заганнасьці і нялюдзкасьці камуністычнай ідэялёгіі, але і з структуры арганізацыі партыі, пабудаванай па тыпова бюракратычнаму прынцыпу, калі звыш 80 працэнтаў яе членаў знаходзяцца ў ролі падаткаплацельшчыкаў на ўтрыманьне камуністычнага кіраўніцтва, якое пры жаданьні, можа сьцерці гэтага «члена» ў пыл і нідзе ніякай управы ён ня знойдзе, хіба паклаўшы сваё здароўе і дабрабыт, ды й то дарма.

У варунках, што склаліся на Беларусі, «вандэя», як і ўсюды, зацікаўленая нагнятаць сваркі, палохаць «экстрэмістамі», «нацыяналізмам», «высяленьнем» Рускіх, «пагромамі» Яўрэяў, «канфрантацыяй», БНФ, Талакой, Прыбалтыкай і г.д. Словам, спараджаць у грамадстве пачуцьцё трывогі і няпэўнасьці, запалохваць яго. Чаму гэта робіцца? Тут разьлік на элементарную масавую псыхалёгію. Грамадзтва заўсёды імкнецца да стабільнасьці. Калі-ж гэтая стабільнасьць парушаецца і ўзьнікаюць рэзкія і трывожныя дэструкцыйныя працэсы, тады ў масах напалоханых, слаба палітызаваных і кепска інфармаваных людзей (асабліва ў абываталяў) пачуцьцё самазахаваньня сьціроўвае іх погляды і надзеі аб паратунку да моцнай цэнтралізаванай улады. Яны пачынаюць прагнуць «моцнай рукі», гаспадара, які-б навёў парадак.

Цяпер зразумела, на што робіць разьлік «вандэя» (зрэшты, цалкам магчыма, што падсьвядома), дэзынфармуючы насельніцтва, стрымліваючы дэмакратызацыю, і нагнятаючы «страхі». Як сказаў хтосьці з дасьціпных людзей: «Нацыяналізм — апошні лёзунг бюракратыі».

Акрамя таго, паколькі ў руках у «вандэі» знаходзіцца ўся ўлада і рэпрэсіўны апарат, яна шукае зачэпкі, каб выкарыстаць яго супраць дэмакратычных працэсаў у Беларусі, пакуль яны ня сталі ўсеагульнымі, так-бы мовячы, скампраметаваць і задушыць у зародку, пакуль ёсьць сіла. Менавіта гэтымі прымітыўнымі мэтамі было выклікана нападзеньне «вандэі» на людзей 30-га кастрычніка 1988 году.

Цяпер, калі дэмакратычны рух замацаваўся, «вандэя» пачала мэтадычна выкарыстоўваць супраць яго сваю рэпрэсіўную машыну судоў, поўнасьцю падпарадкаваную партапарату. Тут дэманструецца ўжо нават ня тое што прававы нігілізм, а цынічна і адкрыта — фактычная адсутнасьць права, партыйна-апаратная прыналежнасьць суда і пракуратуры.

Аднак, выбарчыя пэрспэктывы ў камуністаў-намэнклятуршчыкаў усё-ж невялікія, бо ім, каб затрымацца ва ўладзе, увесь час прыходзіцца ашукваць народ, а людзі ўжо пачалі разьбірацца, дзе праўда, а дзе мана. Нельга сказаць, каб камуністы не разумелі, што народ ім ужо ня верыць і перастае баяцца. Нездарма яны робяць цяпер таемныя сацыялягічныя дасьледаваньні па ўсёй Беларусі, каб выпрацаваць тактыку. А тактыка будзе такая. Чакайце адкрытага, «шчырага» прызнаньня «суровай праўды», «памылак прошлага», крытыкі мэтадаў кіраўніцтва, самакрытыкі, нават пакаяньня; некаторыя будуць «свае ў дошку», будуць «раіцца з народам», «как вывести страну» зь цяжкага стану, будуць «канкрэтныя», «дзелавыя» прапановы, як палепшыць жыцьцё, будуць «канструктыўныя» ідэі і прагнозы; асабліва шмат «дзелавых» прапаноў выкажуць па эканамічных, сацыяльных пытаньнях, не хаваючы «всей серьезности положения». Будуць крывадушна прыносіць у ахвяру нават 6-ы артыкул Канстытуцыі. Словам, людзі павінны пераканацца, што яны, камуністы, — «адзіная рэальная сіла», здольная «кіраваць краінай» і «довести перестройку до конца».

Відаць, таму яны аб'явілі вайну Беларускаму Народнаму Фронту, які думае інакш. Гісторыя, як і грамадзтва, можа спакойна абыйсьціся без камуністаў, а без народу — не, бо народ гэтую гісторыю стварае. Гісторыя-ж паказала, што там, дзе свабодны чалавек, там і свабодны народ — там праца, багацьце, творчасьць, хараство і жыцьцё. Там-жа, дзе прайшоў бальшавік — там кроў, сьмерць, курапаты, вынішчэньне культуры, прыроды і зямлі, там брыдота запусьценьня на сьвятым месцы, бязбожжа і рабства і, самае подлае, — мора, акіяны хлусьні. Яны ўсюды аднолькавыя ці ў СССР, ці на Кубе, у Кампучыі, ці ў Кітаі, у Карэі, ці ў Румыніі, у Польшчы, ці ў Беларусі. Хвароба адна. І грамадзтва, народы павінны бараніцца ад гэтае хваробы ўсімі гуманнымі сродкамі культуры.

Сучаснаму камунізму, што генэтычна напрасткі зьвязаны з бальшавізмам, прыдзецца пераасэнсаваць усю сатлелую спадчыну сваіх ідэй, калі ён сапраўды захоча нароўні існаваць у цывілізаваным дэмакратычным грамадзтве. Гэтага і блізка ня можа зразумець «вандэя». Але пачынаюць разумець людзі.

Тая палітычная сытуацыя, якую стварае ў Беларусі напярэдадні выбараў камуністычная намэнклятура, паставіўшы сябе асобна над усім грамадзтвам і узмацніўшы прасьледаваньні дэмакратычных рухаў, прымушае зразумець, што Беларускі Народны Фронт павінен ажыцьцяўляць ня толькі апазыцыю апаратнаму камунізму, але падтрымліваць усе вольныя грамадзкія памкненьні на шырокай дэмакратычнай аснове, уключаючы камуністаў, духавенства, самадзейныя грамадзкія рухі і плыні, дэмакратычную моладзь і студэнцтва, фэрмэраў і калгасьнікаў, дэмакратычных кандыдатаў ад кааперацыі і ад рабочых калектываў дзяржаўных прадпрыемстваў, усіх здольных, сумленных, адукаваных, прафесійна падрыхтаваных і палітычна сьвядомых людзей з гуманістычным сьветапоглядам, з пачуцьцём свайго народу і Бацькаўшчыны, гатовых адстойваць сувэрэнітэт Беларусі, інтарэсы дэмакратыі, культуры, свабоды і сацыяльнай справядлівасьці.

Усе на барацьбу з «вандэяй»! У беларускага грамадзтва амаль не засталося больш запасу трываласьці. Бо нават карэньні народу сьмяртэльна падточаныя няспынным генацыдам, вынішчэньнем і разбуральным самаўпраўствам бюракратызму. За дзьвесьце гадоў імпэрскай няволі гісторыя ў каторы раз зноў дае нам шанц да адраджэньня і свабоды. Дае, але нічога ня дорыць. Бо воля патрабуе змаганьня.

15 лістапада 1989 г.

**Зянон Пазьняк**

### *«БЕЛАРУС» У МЕНСКУ?*

Як падало заходнянямецкае прэсавае агенцтва ДПА, у Маскве на пачатку гэтага месяца пайшлі ў адкрыты продаж два расейскія эміграцкія выданьні: парыская газэта «Русская мысль» і выдаваны ў Франкфурце ў Зах. Нямеччыне энтээсаўскі тыднёвы часапіс «Посев».

Трэба спадзявацца, што гэты вецер перабудовы дойдзе і да Менску.

# ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ БЕЛАРУСІ

## ГАЙЛЕНД-ПАРК, Н.-ДЖ. (ЗША)

Галоўная ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (кіраўнік маёр Сяргей Гутырчык) адзначыла 69-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў нядзелю 3-га сьнежня. У царкве Жыровіцкае Божае Маці пасьля літургіі а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду па тых, што загінулі ў змаганьні за свабоду й незалежнасьць Беларусі, а таксама па ахвярах сталінскага генацыду. Пасьля багаслужбы й абеду адбылася акадэмія. На ўрачыстасьць, апрача мясцовых суродзічаў, прыбылі прадстаўнікі Амэрыканскага Згуртаваньня Вэтэранаў Рарытанскае Даліны: віцэ-каманьдзер Стэля Слокум і старшыня кіраўніцтва парадамі Анна Шопф.

Пасьля адданьня пашаны сьцягу, уступнога слова старшыні ЗБАВ сп. С. Гутырчыка была адсьпяваная песьня-прысяга «Беларусь наша Маці-краіна».

З кароткімі дакладамі выступілі сп. Юрка Азарка, паангельску, пра падзеі 1920-21 гадоў і абставіны, у якіх было ўзьнятае Слуцкае паўстаньне; сп. Міхась Тулейка пра Слуцкае паўстаньне і дакумэнтальныя крыніцы для ягонага вывучэньня; сп. Янка Запруднік пра беларускае змаганьне ў сучасных абставінах, ролю рэлігіі й мовы ў нацыянальным адраджэньні; сп. Вячаслаў Станкевіч пра перадвыбарчую кампанію ў БССР ды ролю эміграцыі ў дапамозе Беларусам на Бацькаўшчыне бараніць свае правы.

Сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, у сваім вступленны выказаў прапанову, каб у сувязі зь вялікім зацікаўленьнем на Беларусі гісторыяй БНР Згуртаваньне вэтэранаў выдала брашуру пра Слуцкае паўстаньне.

Сьпявак-кампазытар Пётра Звонны выканаў пад акардыён колькі ваяцкіх і патрыятычных песьняў, зь якіх апошнюю, «Ідуць жаўнеры-Беларусы», слухачы прасьпявалі супольна з аўтарам.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**З.**

## ПЭРТ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

Угодкі Слуцкага збройнага акту былі адзначаныя 26 лістапада ў Беларускім Народным Доме. На сьвята былі запрошаныя сьвятар УАПЦ а. Анатоль Сітнік і Аўстралійкі. Прывітаўшы прысутных, старшыня Беларускага Аб'еднаньня сп. Міхась Раецкі малодшы расказаў паангельску, чаму Беларусы сьвяткуюць угодкі Слуцкага ўздыму, а не заканчэньне Першай сусьветнай вайны 11-га лістапада, як гэта робяць іншыя народы.

Айцец Анатоль сказаў малітву за тых, што загінулі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Быў прачытаны сьпіс сяброў Б. А., што адыйшлі на вечны супачынак і хвілінаю цішыні ўшанаваная памяць гэрояў Беларусі. Даклад на тэму дня, ськівраваны да моладзі, прачытаў паангельску старшыня, а пра падзеі на Беларусі ў 1920 годзе — сп-ня Е. Дамброўская. Абодвы даклады былі вельмі цікавыя.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі адбылася нарада ўправы Б. А. у З. А., у часе якое М. Р. прачытаў зварот Першагіерарха БАПЦ Архіеп. Мікалая і рэдактара газэты «Беларус» др. Я. Запрудніка ды выказаў сваю прапанову ў справе дапамогі ахвярам Чарнобыля.

Звароты Архіеп. Мікалая і рэдактара «Беларуса» былі паданыя па радыё ў беларускай праграме 26 лістапада а гадз. 9-й увечары. Сп-ня М. Мароз і сын Алекс (сакратар управы) правялі збор ахвяраў на газ. «Беларус».

На заканчэньне ўсяго адбылося прыняцьцё.

**М. Р.**

## НЬЮ-ЁРК

Слуцкія ўгодкі ў Нью-Ёрку былі адзначаныя 10 сьнежня захадамі нью-ёркскага аддзьзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў. У царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле а. ігумен Грэгоры О'Кіф адслужыў паніхіду, адзначыўшы перад тым у казані, што случчакі ўжо ў 1920 годзе зразумелі гвалтаўнiцкую існасьць бальшавізму — тое, што цяпер стала ясна блізу ўсім народам Цэнтральнай Эўропы.

Пасьля багаслужбы адбылася акадэмія, якую адчыніў сп. Кастусь Мерляк, прачытаўшы прывітаньне ад начальніка Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча.

Сп. Васіль Шчэцька выступіў з дакладам пра падзеі на Случчыне ў 1920 годзе.

Рэдактар «Беларуса» Янка Запруднік падаў інфармацыю пра апошнія падзеі на Беларусі — адраджэньне рэлігійнага й культурнага жыцьця.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам, пасьля чаго адбыўся супольны абед.

## ТАРОНТА (КАНАДА)

Сьвяткаваньне адбылося 26-га лістапада. Пасьля сьв. Літургіі была адслужаная паніхіда. Уладыка Мікалай у сваёй пропаведзі выказаў спадзяваньне, што надыйшоў пачатак фазы гібелі камунізму ды што да мамэнту вызваленьня народаў спад маскоўскага ярма шмат хто з нас дажыве.

Пасьля ўшанаваньня памяці загінуўшых і адсьпяваньня «Сьпі пад курганам гэрояў», прынагоднае слова паангельску сказала сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская. Яна заклікала да большай актывізацыі й да памаганьня беларускаму народу, перадусім ахвярам чарнобыльскае катастрофы. Пабеларуску пра народны гэраізм у змаганьні за вызваленьне Беларусі гаварыў старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. М. Ганько. Ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаў прысутных ейны старшыня др. Я. Сажыч.

Па адсьпяваньні нацыянальнага гімну ў выступленьнях закраналіся розныя праблемы, найбольш справа помачы ахвярам чарнобыльскае катастрофы.

Адбыўся добра падрыхтаваны супольны абед.

**К.**

## ЛЁНДАН (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Сьвяткаваньне было арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі і адбылося 26 лістапада ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў урачыстасьць сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ, прачытаў прысланыя Беларусамі з розных краінаў прывітаньні.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. А. Здановіч, насьвятляючы бальшавіцкую зьнішчальную палітыку ў дачыненьні да Беларускага народу. Найстрашнейшым эпізодам гэтага зьнішчэньня сталіся Курапаты, а нядаўна — Чарнобыль.

Сп. Здановіч падаў таксама сумную вестку пра сьмерць Рывы Бэргман, актывісткі зь Міжнароднае Амністыі.

*(Працяг на 4-й б.)*

# ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

якая ў 1970-х гадох пачала дзейнасьць за вызваленьне зь лягеру Міхася Кукабакі. Памяць нябожчыцы была ўшанаваная хвілінаю маўчаньня.

Сп. Я. Міхалюк паінфармаваў пра стварэньне Беларускага камітэту дапамогі ахвярам чарнобыльскае аварыі. Шырэйшую інфармацыю аб цяжкім стане ў заражаных радыяцыяй раёнах Беларусі падала сп-чна Вера Рыч.

Супольнага пачастунку ня было, бо прызначаныя на яго грошы пастанавілі пераказаць у фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля.

**А. З.**

## МЭЛЬБУРН (АЎСТРАЛІЯ)

Як і папярэднімі гадамі, сьвяткаваньне, якое адбылося 26 лістапада, ладзілі Беларускі Цэнтральны Камітэт і парафія БАПЦ. Пасьля сьв. Літургіі а. А. Кулакоўскі сказаў прачулую казань, заклікаючы ўсіх і ў далейшым да згоднага супрацоўніцтва. Была адслужаная паніхіда па случчаках і ўсіх змагарах Бацькаўшчыны.

Акадэмія адбылася ў Беларускім доме. Адчыніў яе сп. Сідлярэвіч, старшыня БЦК. Ён прывітаў прысутных ды прачытаў пяць прысланых прывітаньняў. З дакладам на тэму дня выступіў сп. П. Гуз.

Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць палеглых Змагароў. Былі прачытаныя справаздачы беларускае дэлегацыі на канфэрэнцыю Антыкамуністычнай Лігі, што адбылася ў Брысбане ў Аўстраліі 21-25 жніўня сёлета. Палкоўнік Д. Касмовіч прыслаў беларускім удзельнікам лісты падзякі, якія таксама былі прачытаныя.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам, пасьля чаго адбыўся традыцыйны сяброўскі вечар.

**М. Н.**

## СЫДНЭЙ (АЎСТРАЛІЯ)

69-г ўгодкі Слуцкай абароны БНР былі адзначаныя 19 лістапада. У Бэнкстаўнскай царкве а. Веніямін пасьля сьв. Літургіі адслужыў паніхіду па гэроях Беларусі і малебен за Беларускі народ.

Акадэмія адбылася ў залі Беларускага Культурна-грамадзкага Клюбу ў Файрфілдзе. Адкрыў яе старшыня клюбу. Былі зачытаныя прывітальныя лісты ад шасьцёх беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі, Амэрыкі й Ангельшчыны. Рэфэрат на тэму дня прачытаў М. Л., падаўшы асноўнае пра Слуцкі збройны акт 1920 году. Хвілінаю цішыні ўшанавалі памяць загінуўшых гэрояў.

Сп. Я. Гавенчык прадэклямаваў тры вершы Алеся Салаўя. Асабліва ўзрушыў слухачоў верш «Маці сына чакае з паходу».

На заканчэньне ўрачыстасьці прагрымеў беларускі нацыянальны гімн.

Супольны абед прайшоў у прыемнай сяброўскай атмасфэры пад тосты і ўспаміны ды размовы аб бягучых падзеях.

**М. Л.**

# 700 РАДЫЯПЕРАДАЧАЎ У СЫДНЭІ

На сыднэйскай этнічнай радыястанцыі 31 кастрычніка прагучэла жвавая «Лявоніха». Дыктар вітае слухачоў з чарговай праграмай, нумар якое сяньня 700. Гэта, бадай, маленькі юбілей, бо калі-б слухаць усе передача запар, дык давялося-б сядзець каля радыё цэлы месяц.

Юбілейная праграма прысьвечаная Таварыству Беларускае Мовы: чытаецца заклік да Беларусаў ува ўсім сьвеце арганізаваць філіялы ТБМ ды рэгістраваць іх. Паведамленьні пераплятаюцца песьнямі. Трэба з радасьцю сьцьвердзіць, што апошнім часам наша музыкатэка ладна ўзбагацілася. Сяньня чуем песьні ў цудоўным выкананьні Валянтыны Пархоменка, Данчыка й Лявона, «Сяброў», Ярослава Еўдакімава, Ніны Кавалёвай, Мікалая Скорыкава, Ядзі Паплаўскай ды іншых. Дыктар дзякуе а. Ігару Хлябічу за рэдакцыю і дыктарства штотыднёвых гутарак на рэлігійныя тэмы, дзякуе др. Сянькевічу і ўсім былым супрацоўнікам. У сямейнай хроніцы некага прывіталі з днём народзінаў і зайгралі вясёлую песьню. Далей падаецца апошнія весткі зь Беларусі, весткі з эміграцыйнага жыцьця і апошнія весткі з усяго сьвету. А тады... зноў прыйшоў час разьвітацца з Вамі, дарагія слухачы, — да сустрэчы ў наступны аўторак гэтай самай парой. Добрай ночы жадае Вам Міхась Лужынскі.

**М.**

## ВОДГУК НА ВЫСТАЎКУ АБРАЗОЎ ГАЛІНЫ РУСАК

У ньюёркскай галерэі СОГО-20 адбылася рэтраспэктыўная выстаўка твораў мастачкі Галіны Русак. Выстаўка трывала ад 14 лістапада па 9 сьнежня. Галерэя наладзіла ў суботу 18-га лістапада прыняцьцё для наведнікаў, на якое прыбылі ня толькі сябры й суродзічы мастачкі, у тым ліку суродзічы зь Беларусі, але й выдавец уплывовага мастацтваведнага часапісу *Artspeak* сп. Бруна Пальмэр-Паронэр. У наступным выпуску ягонага часапісу (1.XII) зьявіўся водгук на творы Г. Русак пад агульным загалоўкам «Тры значныя амэрыканскія мастакі й тры замежныя». Галіна Русак залічаная да мастакоў амэрыканскіх. Крытык Абрагам Ілейн, адзначыўшы беларускае паходжаньне мастачкі Галіны й апісаўшы раньні пэрыяд ейнае творчасьці, адзначыў рост ейнага майстроўства.

«Пачынаючы ад 1978 году, — піша Ілейн, — Галіна працуе ў строга вытрыманай манеры, і гэтая дысцыпліна паказвае, да якога кантролю яна здольная. Расьлінныя й жывёльныя матывы вулучаюць вузоры значэнным кантрастам. Ейныя калёры то кантрастуюць, то зьліваюцца ў далікатных гармоніях.

«Ведаць раньнія працы мастачкі памагае разумець рост Галіны Русак у ейных дасьпелых творах».

**З.**

**HALINA RUSAK. Nature Interpreted—A Retrospective.** Art Director: Irene Dutko. Photography: Natalia Rusak, Valenty Sielwiesiuk.

Каталёг мастацкае выстаўкі ў ньюёркскай галерэі СОГО-20 (14.XI.-9.XII.89) з уводным словам самое мастачкі, артыкуламі пра вытокі мастацтва Г. Русак аўтарства Вялянтына Сельвесюка і стыль ейных малюнкаў аўтарства праф. Томаса Бэрда. У каталёгу дваццаць рэпрадукцыяў абразоў, а таксама храналёгія ранейных выставак ды бібліяграфія.

**Найлепшы падарунак газэце «Беларус» — гадавая падпіска.**



***З жыцьця ў Нью-Ёрку***

## АБМЕРКАВАНЬНЕ КНІЖКІ ДР. В. ТУМАША

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку адбылося 4 лістапада абмеркаваньне кнігі дасьледніка жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны др. Вітаўта Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны». Гэта грунтоўна апрацаваная (і прыгожа выдазеная) бібліяграфія Скарынавых выданьняў, скарынаведных публікацыяў і датычных да жыцьця Скарыны дакумэнтаў. У кнізе больш за дзьве з палавінаю тысячы бібліяграфічных пазыцыяў. Гэта, разам з выдадзеным нядаўна ў Менску скарынінскім энцыклапэдычным даведнікам «Францыск Скарына і его час», найбольш аўтарытэтная крыніца вестак пра першадрукара Беларусі, 500-годзьдзе ад нараджэньня якога будзе адзначацца па цэлым сьвеце ў 1990 годзе.

На вечары ў БІНіМ былі прачытаныя прывітальныя тэлеграмы й лісты з нагоды выхаду Тумашавае кнігі. Былі вітаньні з Канады, Нямеччыны, Аўстраліі, Англіі, а таксама зь Беларусі.

Старшыня БІНіМ др. Вітаўт Кіпель расказаў спачатку пра гісторыю выданьня кніжкі, якая сталася свайго роду падсумаваньнем 40-гадовае скарынаведнае працы др. Вітаўта Тумаша. У галіне скарынаведы, сказаў дакладчык, др. Тумаш быў у шмат якіх мамэнтах першаадкрывальнікам. Асаблівая ягоная заслуга ў тым, што ён устанавіў дакумэнтальна праўдзівае Скарынава імя — Францішак, а ня Георгій, як гэта спрабавалі былі накінуць русыфікатары.

Кніжка Вітаўта Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны» адзначаецца яшчэ й тым, што ў ёй улічаныя скарынаведныя працы заходніх дасьледнікаў, у тым ліку й эміграцыйных, якіх савецкая цэнзура сыстэматычна дагэтуль выкідала з публікацыяў.

З прыемнасьцяй было адзначана на вечары, што кніга др. Вітаўта Тумаша, хоць яна выйшла і ў Злучаных Штатах, але ў беларускай друкарні Міколы Пруская. Гэта таксама свайго роду знак, што запачаткаваная Скарынам блізу паўтысячы гадоў таму беларуская выдавецкая традыцыя жыве й замацоўваецца.

**З.**

# У ТАРОНЬЦЕ «СЬВЯТА»

«Каб у вас заўсёды было сьвята!» — жадалі нам пасьля канцэрту артысты ансамблю народнай музыкі, песьні і танцаў — «Сьвята», «зь Беларусі, СССР», як было сказана на білетах.

Канцэрт, арганізаваны Таварыствам «Канада-СССР», адбыўся 5 лістапада ў Тароньце. Адкрыў яго мясцовы прадстаўнік Таварыства паангельску і перадаў слова сп-ні Людміле Сыраегінай, сакратару Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР. Яна пачала гаварыць парасейску... «Пабеларуску! ..» — загучэлі з залі. Сказалі адзін сказ сп-ня Сыраегіна пабеларуску, і, відаць, атрымаўшы трэму, працягвала парасейку. Рэдактар «Коммуниста Белоруссии» Ул. Вялічка перакладаў сказанае сп-няй Сыраегінай у ангельскую мову.

Тымчасам на сцэне раздаліся мэлёдыяй цымбалы, скрыпка, гармонік, жалейка й дуда. Віхурай напоўнілі сцэну дзяцюкі й дзяўчаты ў раскошных касьцюмах, багатых галаўных уборах. Раздаліся сьпевы, сьпярша прыпеўкі, пасьля мэлядыйныя блізкія сэрцу народныя песьні з Палесься, Віцебшчыны ды іншых частак Беларусі. Як некалі жніўныя напевы на палетках Пружаншчыны, моцным і цудоўным голасам разьліваліся песьні Міхася Пацука, саліста ансамблю «Сьвята». Міхась родам з Магілеўшчыны, цяпер жыве ў Менску. У іншым, таксама народным стылі, галасіста залівалася песьняй і чаравала нас Сьвятлана Салодкая з Горадзеншчыны. Сьвятлана пяяла, солё або ў дуэце, са сваім мужам Валодзем Салодкім. З дастойнасьцю і такой беларускай сьціпласьцю выводзіла смычком народныя мэлёдыі скрыпачка. Мянчанка Сьвятлана, цымбалістка, спрытна малаточкамі выгрывала радасьць, што «ажывае» Менск!

То як чыжыкі, то як матылёчкі лёталі па сцэне тоненькія ў пасе, гібкія станам дзьве балетніцы. А дзяцюкі! Стройныя ў багата вышытых кашулях, падпяразаных шырокімі нашымі паясамі, у такт музыкі ў бесьперапынных скоках заляцаліся да дзяўчат, гулялі, як некалі на вечарынках. У скоках, песьнях салёвых і агульных гучэла вясельле. Даўжэзным ручніком гарадзілі дарогу маладым дзеля выкупу. Грымела Лявоніха. Пяяў яе солё беспадобны Міхась, пяялі яе, танцуючы, усе разам. Між удзельнікаў было колькі салістаў, кожны са сваім стылем. Адзін зь іх надта нагадваў коласаўскага Сымона Музыку сваёй паставай і як лянок сьветлымі, гладзенька прычэсанымі валасамі. Уся праграма была беларуская.

Віншуем вас і дзякуем вам, таленавітыя беларускія Артысты! Віншуем кіраўніка ансамблю Васіля Купрыяненку з выдатным паказам — харэаграфіяй, зьнітаванасьцьцю музыкі, песьняў, скокаў у адну гарманійную цэласьць, што прадстаўляла вечарынкі, абрады, што прадстаўляла сабой народную, багатую душой, чулую сэрцам, творчую Беларусь.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

**ЗВАЖАЙ, Часапіс Беларускіх Вэтэранаў.** Таронта, Канада. № 4 (56), лістапад 1989. 8 бб.

У нумары зьмешчаныя: успаміны аб Слуцкім паўстаньні кап. Сокала-Кутылоўскага; матар'ял пра вынікі чарнобыльскай катастрофы; пра нішчэньне гістарычных мясьцінаў у Слуцку; пра польскія прэтэнсіі на былую Зах. Беларусь ды іншае.

# ВІТАЕМ МАЛАДАЖОНАЎ



*Др. Кіпель Юрка й Лёрэйн*



*Сельвесюк Валянтын і Ёлянта*

Адно за адным адбыліся два прыгожыя вясельлі. 28 кастрычніка ў царкве Божае Маці Ліванскае ў Брукліне (Мараніцкая Каталіцкая Царква) узялі шлюб др. Юрка Кіпель і Лёрэйн Суіні, а 4 лістапада ў царкве Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж., а. Васіль Андрэюк павянчаў студэнтаў Ратгерскага ўнівэрсытэту, беластаччанаў Валянтына Сельвесюка й Ёлянту Панфілюк. Абедзьве маладыя пары — актыўныя ўдзельнікі беларускага грамадзкага жыцьця, і беларускае грамадзтва ад усяго сэрца зычыць ім і бацьком іхным добрага здароўя, трывалага шчасьця і, пэўна-ж, прыбытку ў хаце...

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ «ДЫЯЛЁГ»

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб тэй мове,*
*Якой азваўся Беларус?*

Янка Купала — Ворагам беларушчыны (верш)

Хоць гэты верш быў напісаны больш за 70 гадоў таму, ён і сёньня нічога ня страціў са сваёй актуальнасьці. А «паном» надалей чагосьці хочацца...

Зьмена палітычнай сытуацыі ў Польшчы вызвала ўсе нацыяналістычныя й шавіністычныя нахілы польскага грамадзтва Беласточчыны. Праўда, за часамі камуністычнага рэжыму ня было яно пазбаўлена гэткіх схільнасьцяў, аднак тады адбывалася ўсё цішком, ня так яўна й афіцыйна, як цяпер.

А цяпер што мы маем? Польская беластоцкая прэса поўная антыбеларускіх, нярэдка зьедлівых і грубых выказваньняў. На сьценах у гарадох Беласточчыны ўсё часьцей можна сустрэць абразьлівыя, супрацьбеларускія надпісы тыпу «Польшча для Палякоў». Можна сказаць, што сытуацыя, у якой жыве беларуская меншасьць — на мяжы псыхічнага тэрору. Увесну сёлета ў беластоцкім «Кур'еры Падляскім» разгарэлася нібы-дыскусія вакол беспрынцыповых, антыбеларускіх паклёпаў — у сэрыі артыкулаў пад заг. «Пад рознымі крыжамі».

Польскія шавіністы абвінавачвалі Беларусаў Бог ведае ў чым! Выходзіць, што ўва ўсіх няшчасьцях Польшчы найбольш вінаватыя Беларусы. Паводля польскіх цьверджаньняў, Беларусы ня толькі калябаравалі са сталінцамі, гітлераўцамі, а пасьля з камуністамі, але й сёньня таксама, захапіўшы ўладу ў ваяводзтве, «мучаць бедных Палякоў». Адсюль рэкамэндуецца разьвязаньне «беларускае праблемы»: «Бі кацапа!» Тупагаловае паклёпніцтва спынілася было, відаць, загадам «згары», але не на доўга.

А краіна ў міжчасе ўсё больш і больш дэмакратызавалася. На месца камуністычнага прыйшоў урад «Салідарнасьці». Адна з соймавых камісіяў да справаў нацыянальных меншасьцяў падрыхтавала даволі лібэральны праект закону аб меншасьцях. Выглядала, што дэмакратыя трапіць да ўсіх колаў грамадзтва. Аднак не. Беластоцкія Палякі хварэюць на беларускім пункце — яны ствараюць і распаўсюджваюць больш ці менш недарэчлівыя міфы.

У пачатку верасьня «Кур'ер Падляскі» пачаў ізноў зьмяшчаць недарэчныя, антыбеларускія інсынуацыі. Прычынай новай хвалі нападаў сталася выступленьне старшыні БГКТ А. Баршчэўскага на паседжаньні ваяводзкага камітэту кампартыі ў Беластоку. Баршчэўскі насьвятліў «таварышам» галоўныя праблемы й патрабаваньні беларускае меншасьці ў галіне культуры й эканомікі. Рэакцыя польскіх шавіністаў была вокамгненная і адназначная: ну, бо як гэта так — «Беларусы польскі хлеб ядуць ды яшчэ ім гэтага мала!» Нейкі Яцак Грын («КП, 8.IX.89) заявіў, што беларускай праблемы як такой няма, а тое, пра што гаварыў Баршчэўскі — звычайная выдумка людзей ягонага тыпу. Паводля Грына, беларуская мова — гэта толькі гаворка беларуска-расейскага сумежжа, а гэта значыць, што няма й такой нацыі, як Беларусы. Разам з тым Грын бачыць сярод беластаччанаў «з характэрнымі імёнамі й прозьвішчамі» тых, хто хацеў-бы далучыць землі Беласточчыны да Савецкага Саюзу. Выглядае, што Беларусы — патэнцыяльныя здраднікі Польшчы. А на што заслугоўваюць здраднікі, чытачы «Кур'ера», судзеце самі...

Спрэчкі трывалі колькі тыдняў. У іх выступалі таксама й Беларусы: Сакрат Яновіч, Віталі Луба, Я. Міранові ды іншыя, якія стараліся паказаць беспадстаўнасьць польскіх закідаў. Але куды там лёгіцы да засьлепленага шавінізму. Аўтаноміі сваім суродзічам-Палякам у Літве, на Беларусі ды ў іншых частках СССР то яны дамагаюцца, а Беларусам на Беласточчыне таго-ж самага прызнаць ня хочуць.

На заканчэньне варта дадаць выказваньне Я. Міранові зь ягонага артыкулу «Дыскусія з глухім» («Ніва», 15.X.): «Весьці нам спрэчкі ў друку зь некім, хто на поўным сур'ёзе, а разам з тым і заядла цьвердзіць, што няма беларускай мовы, а затым няма й Беларусаў — які-ж сэнс? Нічога такому не дакажаш, бо чым больш рацыяў будзеш мець, тым мацней разьюшыш».

У польскім грамадзтве ёсьць цімала людзей сур'ёзных, якія бачаць патрэбу польска-беларускага дыялёгу. Зь імі й варта весьці дыскусію. А што да беластоцкіх цемрашалаў, дык іх ніяк не пераканаеш, хоць-бы на тваім баку была ўся рацыя. Але прынамся ведаць пра іх трэба.

**Юрка Ляшчынскі**

## АДРАДЖЭНЦЫ-«СЬВЯТАРЫ»

У часапісе «Мастацтва Беларусі» (№ 10, 1989) Сяргей Дубавец, пішучы пра беларускага барда Сяржука Сокалава-Воюша (які пасябраваў з Данчыкам у часе сёлетняга візыту апошняга ў Беларусь), залічае яго да «адраджэнцаў». «Адраджэнец, — кажа Дубавец, — гэта ня зусім тое, што навуковец, паэт, мастак... Адраджэнец — гэта і ня зусім палітык, хоць ягоная заангажаваная творчасьць мае пад сабой палітычныя грунт і мэту. Адраджэнца лепей характарызуюць словы: прарок, сьвятар ці рыцар альбо — духоўны палітык. Ён — палітык, які дзейнічае ў мяккіх, а ня ў жорсткі грамадзкіх структурах. Такія Алег Бембель, Зянон Пазьняк, Мікола Купава, Яўген Кулік, Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў-Воюш ды — цяпер ужо — шмат іншых. Паэты, навукоўцы, мастакі, якія ўсе, тым ня менш, належаць да аднае гурмы. Яны — адраджэнцы».

Дубавец кажа, што беларуская паэзія, «якая доўгі час марнела на сацыялягічных пуцявінах у палоне графаманіі і хлусьні, якая праз тое страціла сваю нацыянальную вартасьць і чытача, з прыходам новага адраджэньня зноў набывае свае лепшыя якасьці».

Літаратары-адраджэнцы, піша Сяргей Дубавец, забясьпечаць «працяг анталягічнага шэрагу новай беларускай літаратуры непасрэдна ад Багушэвіча, Купалы, Гаруна, Багдановіча, Арсеньневай, Жылкі, Геніюш, Караткевіча...».

Дарэчы, пяцітомавы Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (1977-84) ня мае ў сабе слова «сьвятар», якое цяпер можна часта сустрэць, і ў простым, і ў пераносным сэньсе, на старонках беларускага савецкага друку.

## АМЭРЫКАНСКІ ЧАСАПІС ПРА В. КОРБУТ

Папулярны часапіс Sports Illustrated (27.XI) зьмясьціў вялікі ілюстраваны артыкул пра алімпійскую чэмпіёнку зь Беларусі Вольгу Корбут (Мюнхэнская Алімпіяда 1972 г.) і амэрыканскую чэмпіёнку Мэры-Лю Рэтан (Лёсанджэлеская Алімпіяда 1984 г.). Абедзьве спартсмэнкі пабывалі цяпер супольна ў сямёх гарадох ЗША, дзе выступілі зь гімнастычнымі паказамі. Часапіс нагадаў чытачу яшчэ раз пра рэвалюцыйнае наватарства, якое ўнесла Вольга Корбут у жаноцкую гімнастыку, стаўшыся назаўсёды каралеваю гэтага віду спорту. Корбут мае й цяпер цікавыя наватарскія ідэі, якія яна спадзяецца ўнесьці ў алімпійскую гімнастыку.

Часапіс расказаў пры гэтай нагодзе таксама пра жыцьцё Вольгі пасьля Алімпіяды 1972 году — пра тую ізаляванасьць, у якой яна апынулася, пра выхад замуж за сьпевака Леаніда Барткевіча, пра Вольгін сёньняшні вялікі патэнцыял для прапаганды гімнастыкі ў моц ейнага чэмпіёнства й прывабнае асабістасьці.

Часапіс паінфармаваў, што Вольга працуе цяпер гімнастычным трэнерам БССР, а ў Злучаныя Штаты прыехала для наладжаньня сувязяў з Амэрыканскай Фэдэрацыяй Гімнастыкі. З Вольгай і Леанідам прыехаў таксама іхны 11-гадовы сын Рычард.

## МЕНСКАЯ ДУХОЎНАЯ СЭМІНАРЫЯ

Ад першага верасьня сёлета пачала працаваць у Сьвята-Усьпенскім Жыровіцкім манастыры Менская духоўная сэмінарыя. У сэмінарыі займаецца 40 студэнтаў (кандыдатаў было 84) у веку ад 18 да 35 гадоў. Вялікі ілюстраваны матар'ял пра гэту новую навучальную ўстанову, у рубрыцы «Вы прасілі расказаць», зьмясьціла «Настаўніцкая газэта» (!) за 1 лістапада. Аўтар матар'ялу — Анатоль Аўрамчык.

Для залічэньня ў сэмінарыю трэба было здаць экзамен з расейскае мовы.

У сэмінарыі выкладаюцца, апрача розных тэалягічных дысцыплінаў, мовы: царкоўнаславянская, грэцкая, лацінская, ангельская і беларуская. Гэтая апошняя выкладаецца не таму, што яна прадбачаная праграмай (там яе няма), а дзякуючы вялікай прыхільнасьці да яе рэктара сэмінарыі, намесьніка ігумена манастыра, архімандрыта Стэфана.

У сэмінарыі ёсьць нават адмысловая кляса (1 «А»), піша А. Аўрамчык, у якой «усе прадметы мяркуецца выкладаць пабеларуску». Ёсьць аднак ці мала цяжкасьцяў з гэтым: адна зь іх — «няма ў сэмінарыі падручнікаў беларускай мовы» (!).

Дарэчы, у сёлетнім ліпеньскім нумары «Минских епархиальных ведомостей», паводля «НГ», адкрыта новая рубрыка, у якой апублікаваная «першая пропаведзь на беларускай мове».

Беларускамоўная кляса у духоўнай сэмінарыі, як сказаў а. Сергій (Сяргей Гардун) адкрытая патое, «каб маладое пакаленьне нашых сьвяшчэньнікаў стала нацыянальным па свайму духу».

Сэмінарысты, піша Анатоль Аўрамчык, «выказалі а. Сергію прапанову стварыць суполку Таварыства Беларускай Мовы».

Рэлігійная тэматыка, між іншага, зусім новая для савецкіх журналістаў, у тым ліку й для А. Аўрамчыка, які слаба азнаёмлены з рэлігійнай і царкоўнай тэрміналёгіяй. Гэтак, Аўрамчык піша пра сэмінарыстаў як будучых «пастараў». «Пастар» пабеларуску значыць «пратэстанцкі сьвятар». Аўрамчык піша «тропар» (замест «трапар»), «намесьнік манастыра» (заміж «намесьнік ігумена манастыра»). Але ён правільна робіць, карыстаючыся часта словам «сьвятар» (а не «сьвяшчэньнік»), хоць слова «сьвятар» і ня было дапушчанае рэдактарам пятага тому Тлумачальнага слоўніка беларускае мовы М. Суднікам на старонкі слоўніка. «Сьвятар» на старонках «Настаўніцкай газэты» — паказальнік даволі радыкальнае перабудовы ў некаторых сфэрах савецкае рэчаіснасьці.

**Я. З.**

## ПЕРАНОС МАГІЛЫ ФР. АЛЯХНОВІЧА

18-га лістапада сёлета на віленскім могільніку Роса адбылося перапахаваньне астанкаў Францішка Аляхновіча, магіла якога была перанесеная з



былых евангелісцкіх могілак, зьліквідаваных з поваду пабудовы там палацу шлюбаў. Пахаваны цяпер Аляхновіч на «літарацкай горцы» недалёка ад магілы паэта Казімера Сваяка. Аляхновічава магіла была перанесеная стараньнямі Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Апрача мясцовых Беларусаў, на пахаваньні былі суродзічы зь Менску й Беластоку. Абрад пахаваньня выканаў ксёндз Тунайціс, пробашч касьцёлу сьв. Мікалая. Прамаўлялі сябры ТБК Аляксей Анішчык і Міраслава Русак. Пра перанос магілы паведаміла літоўскае тэлебачаньне.

Францішак Аляхновіч, аўтар 17 сцэнічных твораў і міжнародна ведамае кнігі «У капцюрох ГПУ», стаўся ахвяраю бальшавіцкіх тэрарыстаў у часе Другое сусьветнае вайны. Імя ягонае яшчэ ўсё забароненае цэнзураю ў падсавецкай Беларусі.

## СЬВ. ПАМ. АЛЕСЬ МАРОЗ

**16.8.1918-8.11.1989**

Нарадзіўся ў вёсцы Кацяўшчына на Валожыншчыне. У заходнюю Аўстралію прыбыў у 1949 годзе. Першы раз спаткацца зь ім давялося на пачатку 1954 году. Якраз гэта было ў той дзень, калі Алесь уступіў у першую ў гісторыю заходняй Аўстраліі беларускую арганізацыю З.Б.В. у З.А., якая была заснаваная ў студзені 1951 году. Стаўшыся сябрам гэтае арганізацыі, Алесь у хуткім часе выявіў вялікае зацікаўленьне да працы на грамадзкай ніве. Займаючы розныя становішчы ў арганізацыі, ён заўсёды турбаваўся, каб праца была зробленая добра і каб нічым не запляміць імя Беларуса. Калі на сталае жыцьцё прыбыў сюды Галава БАПЦ Архіепіскап Сяргей. Алесь яму вельмі шмат дапамагаў. З абявязкамі прыбылі й турботы. Трэба было будаваць памешканьне для царквы, грамады і архіепіскапа.

Наша грамада была невялікай, а да гэтага і незаможнай. Але ад заняпаду справы выратавалі нас нашы суродзічы ў вольным сьвеце. Купіўшы зямлю на будову і сабраўшы трохі грошай, пачалі будову, прытым увесь клопат, зьвязаны з будовай, узяў на сябе Алесь. Гэты клопат ён нёс аж да заканчэньня будовы. У 1968 годзе была створаная беларуская арганізацыя пад назовам Беларускае Аб'яднаньне ў заходняй Аўстраліі. Мэтай гэтага згуртаваньня было, каб усе нашыя суродзічы маглі браць удзел у грамадзкай працы. У гэтай арганізацыі Алесь займаў розныя становішчы, пачынаючы ад старшыні і канчаючы скарбнікам. Да ўсяго гэтага ён на працягу колькіх дзясяткаў гадоў быў прадстаўніком беларускай прэсы на заходнюю Аўстралію, а ад 1984 году — сябрам рады БНР. На займаных становішчах паказаў сябе моцным патрыётам і шчырым грамадзкім працаўніком, які заслужыў на пашану і на тое, каб быць прыкладам іншым.

Адыйсьцё Алеся было нечаканым. Нябожчык пакінуў у горы жонку Марыю, дачку Сьвятлану, сына Алеся, зяця Эдзіка, унучку Сафію, унукаў Ціmоха і Міхася.

Пахаваны сьв. пам. Алесь амаль побач былога старшыні Б.А. у З.А. Станіслава Дамброўскага на могілках Пінару.

Шчырыя спачуваньні выказваем усёй сямейцы Мароза і блізкім.

Хай-жа сьняцца яму сны аб Беларусі, якую ён так моцна любіў.

Замеж кветак на магілку Алеся Мароза, прадстаўніка газэты «Беларус», высылаецца ахвяра на газэту — 150 амэрыканскіх даляраў. **Р. М.**

## КРЫВІЧЫ ЗАСНАВАЛЬНІКІ ВІЛЬНІ?

У артыкуле пад заг. «Славяне і Балты на тэрыторыі Беларусі» («Настаўніцкая газэта», 19.VIII.89) кандыдат гістарычных навук Э. Зайкоўскі піша:

«У 'Аповесьці мінулых часоў' згадваюцца славянскія плямёны, якія засялялі і тэрыторыю Беларусі. У вярхоўях Дняпра, Волгі і Заходняй Дзьвіны згадваюцца Крывічы. Маскоўскі археоляг Д. А. Аўдусін зьвяртае ўвагу, што летапісец, пералічваючы славянскія плямёны, ні разу не назваў Крывічоў Славянамі, а зьмяшчаў іх перад ці пасьля згадваньня аб яўна іншаязычных плямёнах. Зыходзячы з гэтага, ён мяркуе нават, што Крывічы былі або моцна балтызаванымі Славянамі, або ўсходнімі Балтамі. Па тэрыторыі Крывічы былі самым буйным усходнеславянскім племем: яны займалі частку нашай рэспублікі (на поўнач ад лініі Заслаўе — Менск), Пскоўшчыну, Смаленшчыну, вярхоўі Волгі. Назвы вёсак Крывічы, Крывічаны трапляюцца яшчэ шырэй: у Зэльвенскім, Іўеўскім, Лідзкім, Салігорскім, Пінскім, Валожынскім, Мядзельскім, Докшыцкім, Глыбоцкім, а таксама ў ваколіцах Вільні.

«Летапіс паведамляе, што 'перьвии насельници... в Полотьсте кривичи', г. зн., што Крывічы былі заснавальнікамі Полацку. Паколькі адна з самых старажытных частак Вільні называлася Крывым горадам і там пры раскопках выяўленыя славянскія матар'ялы, то археолягі Алена і Ўладзімер Галубовічы выказалі думку, што першапачатковая назва Вільні была Крывіч-горад і яна заснавана Крывічамі».

## ДАЧКА М. РАВЕНСКАГА ЗНАХОДЗІЦЬ БАЦЬКАВУ МАГІЛУ

Вялікая была для мяне неспадзеўка і зьдзіўленьне, калі ўвечары 16 кастрычніка сёлета сп-ня Зоя Смаршчок тэлефанічна паведаміла, што дачка славутага кампазытара Міколы Равенскага знаходзіцца ў Бэльгіі, у гор. Лювэне, дзе Равенскі жыў ад 1950 году і дзе ў сакавіку 1953 году памёр ды там і пахаваны. Трэба было абавязкава спаткацца з наведніцай так неспадзяванай.

Прафэсара Равенскага я знаў у гадох 1945-1948 у Нямеччыне, дзе, быўшы вучнем Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы, я браў актыўны ўдзел у мяшаным хоры, ім-жа зарганізаваным і кіраваным, а пасьля ад 1950 году і да ягонае сьмерці ў Лювэне, дзе таксама сьпяваў у ягоным, гэтым разам мужчынскім, хоры, але пра ягонае асабістае жыцьцё на Бацькаўшчыне абсалютна нічога ня ведаў. Быў ён чалавек высокае інтэлігентнасьці, зь вялікім музыкальным талентам, працавіты й шчыры Беларус, вельмі сьціплы, закрыты ў сабе, і аб сваім асабістым жыцьці на Бацькаўшчыне мала расказваў.

Спаткацца зь ягонай дачкою, зразумела, трэба было абавязкава, бо-ж мы, беларуская эміграцыя, глыбака ўдзячныя кампазытару Равенскаму, і гэтую ўдзячнасьць хацелася выказаць найдаражэйшай для яго асобе. На вялікі жаль, ейны (ці дакладней, іхны, бо яна прыехала з мужам) час быў вельмі абмежаны, а ў мяне таксама — прафэсійныя заняткі, дык давялося спаткацца адно два разы вечарамі.

Вось перад намі надзвычай сымпатычная жанчына, вельмі падобная на бацьку як фізычна, гэтак і характарам. Імя ейнае Оля, а прозьвішча па мужу Алексеенка. Напэўна ад бацькі ўяе і музычныя здольнасьці, яна — сьпявачка хору Беларускага радыё й тэлебачаньня ў Менску, сапрана, салістка драматычных і нацыянальных песьняў. Часта выяжджае на гастролі, асабліва ў Прыбалтыку й Польшчу, дзе ейны хор, найлепшы ў рэспубліцы, выступаў зь вялікай удачай. Вельмі ім хацелася-б паехаць за межы сацыялістычных краінаў, але нестае валюты. Надзеі аднак ня трацяць.

Так хацелася пагутарыць больш, даведацца аб жыцьці й дзейнасьці праф. Равенскага на Бацькаўшчыне. Але, як выявілася, бацьку дачка ледзь памятае, бо была зусім маленькай, калі ён быў змушаны пакінуць Беларусь у 1944 годзе. У малым веку ня знала, хто ейны бацька, якая ягоная доля і дзе ён, бо маці баялася расказваць пра яго. А калі вырасла й скончыла сярэднюю школу, дык мела цяжкасьці пры залічэньні ў інстытут. Прычыны цяжкасьцяў ёй былі няведамыя. А калі дапытвалася аб прычынах, дык дакладнага адказу ёй не давалі. Адно казалі, што ёсьць «нейкія цяжкасьці», зьвязаныя з заграніцай. Калі-ж пасьля даведалася ад маці праўду, — што бацька выехаў у часе вайны на Захад, — дык пастанавіла за ўсялякую цану адшукаць яго, жывога ці мёртвага.

Трэба зазначыць, што спадарыня Алексеенка, выбіраючыся ў Бэльгію, абсалютна не спадзявалася спаткацца зь Беларусамі. Калі-б яна ведала пра магчымасьць сустрэчы, дык распытала-б больш дэталяў у маці, якая, хоць ужо й старэнькая, але добра памятае мужа і магла-б сёе-тое расказаць. Пабадзала, вярнуўшыся ў Менск, зрабіць гэта.

Вестку аб тым, што бацька памёр і пахаваны ў Лювэне ў Бэльгіі, дастала яна ад далёкае сваячкі па бацькавай лініі, якая жыве ў Вялікабрытаніі. Дастаць пашпарт і візу на замежнае падарожжа было няпроста. Патрабавалася якое-небудзь знаёмства ў Бэльгіі, але там яна нікога ня знала. Тады яна зьвярнулася да Чырвонага Крыжа, дзякуючы якому яны з мужам дасталі ўсё патрэбнае для выезду. Цяжкасьці, аднак, на гэтым ня скончыліся. Калі яны прыехалі ў Лювэн, першая думка была знайсьці Чырвоны Крыж, які памог-бы адшукаць магілку. Але як гэта зрабіць, ня ведаючы мовы? На шчасьце, з дапамогай дабрадушных лювэнскіх жыхароў удалося знайсьці аднаго расейскага сьвятара, які, будучы ў кантакце зь Беларусамі Бэльгіі, ня толькі знаў, дзе знаходзіцца магілка праф. Равенскага, але нат займаўся доглядам яе.



*Магіла кампазытара Міколы Равенскага ў Лювэне (Бэльгія). Помнік работы скульптара Міхася Наўмовіча. Фота Васіля Шчэцькі.*

Гэткім вось чынам, па так даўгім часе, дачка прыехала пакланіцца над магілкай амаль нязнанага, але ня менш дарагога свайго бацькі. Расказваючы пра гэты мамэнт, яна намагалася стрымацца, каб ня выбухнуць плачам. Над магілкай ня стрымалася... І нам гэта вельмі й вельмі зразумела, бо й з нас таксама ці адзін тут, на чужыне, аплакваў сваіх родных, ня маючы нават магчымасьці пакланіцца над магілкай.

Пры нагодзе наведаньня бацькавай магілы дачцы праф. Равенскага ўдалося спаткацца з былымі студэнтамі Лювэнскага ўнівэрсытэту, між якіх былі й два былыя сябры студэнцкага хору незабыўнага Міколы Равенскага.

**Я. Ж.**

**ВЕСЬНІК Беларускага Каталіцкага Душпастырства**. Лёндан, Ангельшчына. № 3 (8), восень 1989. 12 бб. Айцец Ал. Надсон — Наш боль — наш доўг (пра дапамогу ахвярам радыяцыі ў Беларусі); а. А. Надсон — Новы біскуп (Т. Кандрусевіч): надзеі і трывогі; весткі з рэлігійнага жыцьця; новыя выданьні.

**ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ. Беларускі інфарматар**. Рым, Італія. № 10 (14), кастрычнік 1989, 8 бб. Да пытаньня роднае мовы ў сьвятынях; Водгукі назначэньня біскупа ў Беларусі ў ангельскай прэсе і радыё; хроніка дзейнасьці Сьвяцейшага Айца; Прычасьце пад двума відамі; 75-годзьдзе нараджэньня Лявона Случчаніна.

**БЮЛЕТЭНЬ ЦАРКВЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА АМЭРЫКАНСКА-БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**. Нью-Ёрк. Выданьне англамоўнае, штотыднёвае, 4 бб. Рэдагуе й выдае а. ігумен Грэгоры О'Кіф, настаяцель царквы. Выйшла 13 нумароў. У апошнім нумары, датаваным 10 сьнежня 1989, нататка пра Слуцкае паўстаньне; рэлігійнае навучаньне.

# МОВА: НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

«Настаўніцкая газэта» (29.XI.89) зьмясьціла артыкул карэспандэнта БЕЛТА А. Міхальчука пра абмеркаваньне на супольным паседжаньні камісіяў Вярхоўнага Савету БССР Закону аб мовах рэспублікі. Паводля распрацаванага за тры месяцы законапраекту, ніводзін з працаўнікоў дзяржаўных установаў ня будзе магчы займаць сваю пасаду «не валодаючы ў дастатковай меры беларускай і расейскай мовамі». Законапраект кажа, што «Акты вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня рэспублікі павінны прымацца на беларускай мове, а друкавацца таксама і на расейскай. Гэта-ж датычыць і актаў міністэрстваў і ведамстваў, мясцовых органаў улады з той толькі розьніцай, што публікуюцца яны пры неабходнасьці на беларускай мове Қмове большасьці насельніцтва данай мясцовасьці».

«Мова справаводзтва, узаемаадносін розных арганізацый і ўстановаў, прадпрыемстваў — беларуская. Расейская — пры неабходнасьці, верагодна, для прадпрыемстваў саюзнага падпарадкаваньня. На зьездах, канфэрэнцыях, пленумах, паседжаньнях, нарадах і г.д. у рэспубліцы рабочай мовай зьяўляецца беларуская».

«У сфэры культуры, — піша А. Міхальчук, — беларускай мове забясьпечваецца перавага пры захаваньні і разьвіцьці культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, якія жывуць у Беларусі.

«Мова большасьці афіцыяльных сродкаў масавай інфармацыі — беларуская, але могуць быць і расейская, і мовы іншых нацыянальнасьцяў. Абʼявы, плякаты, афішы выконваюцца на беларускай, побач можа зьмяшчацца пераклад на іншую мову. Тавары маркіруюцца на беларускай, а тыя, што ідуць за межы рэспублікі, і на расейскай або на мове заказчыка».

Законапраект прадбачыць тэрмін пераходу на беларускую мову для кіраўнікоў афіцыяльных установаў (чамусьці гутарка пра «кіраўнікоў», а не працаўнікоў наагул) на працягу трох гадоў, а для рэшты рэспублікі максымальны тэрмін — 10 гадоў. Міхальчук, праўда, зазначае, што «зусім не абавязкава чакаць заканчэньня ўстаноўленых тэрмінаў пераходу на дзяржаўную мову».

Удзельнікі супольнага паседжаньня дзяржаўных камісіяў, на якім абмяркоўвалася пытаньне Закону аб мовах, «аднагалосна вырашылі адабрыць законапраект» і даручылі моўнай камісіі дапрацаваць яго з улікам выказаных заўвагаў ды прадставіць у Прэзыдыюм ВС БССР, пасьля чаго мае адбыцца «ўсенароднае абмеркаваньне».

---

### ПАДЗЯКА ЗА ВЫРАЗКІ

З удзячнасьцяй адзначаем, што наступныя асобы прыслалі нам прэсавы матарʼял, выкарыстаны рэдакцыяй: С. Карніловіч, др. Л. Трусэвіч, а. др. Р. Тамушанскі, Я. Мойсік, П. Драздоўскі, Я. Міхалюк, А. Лашук, Л. Паплаўскі, В. С., В. Станкевіч, М. Грэбень, Ул. Бакуновіч, В. Махнач, М. Давідзюк, А. Белы, С. Яновіч, К. Верабей, О. Грыцук, У. Пеляса, М. Раецкі, др. Ю. Туронак.

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| С. Карніловіч | ам. д. 500 |
| А. і Л. Беленіс | 200 |
| БАЗА, Нью-Ёрк | 150 |
| БАЗА, Кліўленд | 150 |
| АБАМ | 100 |
| Ф. Бартуль | 100 |
| П. Пікулік | 100 |
| М. Рагуля | 100 |
| М. Шыкалюк | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| М. Чупракоў | 100 |
| Ю. Станкевіч | 100 |
| В. Грышчук | 100 |
| А. Занковіч | 100 |
| Я. Сажыч | 100 |
| В. Сітнік | 100 |
| У. і В. Брылеўскі | 100 |
| К. Ворт | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| М. Сьнежка | 100 |
| А. Целеш | 100 |
| А. Асіповіч | 100 |
| І. Гайдзель | 100 |
| Л. Сісой | 90 |
| Э. Жызьнеўская | 75 |
| В. Кажан | 75 |
| К. Мерляк | 50 |
| С. Антонік | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| Н. Арсеньнева | 50 |
| А. У. Р. | 50 |
| В. М. | 50 |
| Н. Мароз | 50 |
| Л. Мілер | 50 |
| В. Ковель | 50 |
| В. Ракуць | 50 |
| А. Даніловіч | 50 |
| П. Кулеш | 50 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| А. Ліхач | 50 |
| С. Шыян | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| В. Тур | 50 |
| В. Станкевіч | 50 |
| Л. і Э. Норык | 50 |
| Г. Паланевіч | 40 |
| О. Арэхва | 40 |
| М. Палюховіч | 40 |
| Н. Жызьнеўскі | 40 |
| М. Вайтовіч | 35 |
| М. Абрамчык | 30 |
| П. Недзьвецкі | 30 |
| М. і К. Верабей | 30 |
| М. Сіцько | 30 |
| М. Кулагін | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| Л. Літаровіч | 30 |
| П. Зыбайла | 25 |
| М. Сяднёў | 25 |
| Г. Сенькевіч | 25 |
| П. Драздоўскі | 25 |
| М. Кумэйша | 25 |
| У. Пелеса | 25 |
| А. Бартуль | 25 |
| М. Бахар | 25 |
| Б. Дубоўскі | 25 |
| В. Церпіцкі | 25 |
| С. Мажэйка | 25 |
| О. і Я. Канарчук | 25 |
| Л. Шурак | 25 |
| М. Александровіч | 25 |
| М. Грэбень | 25 |
| Ю. Рэпэцкі | 25 |
| А. Стрэчань | 25 |
| М. Брынкевіч | 25 |
| В. Шчэцька | 20 |
| Я. Наваградзкі | 20 |
| Э. Пілецкі | 20 |
| Я. Лёхэр | 20 |
| С. Стаськевіч | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| В. Косараў | 20 |
| А. Мацукевіч | 20 |
| А. Акановіч | 20 |
| А. Непеін | 20 |
| А. Гардынец | 20 |
| А. і Л. Махнюк | 20 |
| А. Андрыца | 20 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| Н. Кіт | 20 |
| М. К. | 20 |
| Б. Нагорны | 15 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Я. Крэсла | 10 |
| Б. Прытыцкі | 10 |
| Усяго | 5365 |

*За калядныя віншаваньні:*

| | |
|---|---|
| П. Кулеш | 45 |
| К. Мерляк | 10 |
| А. Чарнэцкая | 10 |
| М. Войтэнка | 10 |
| В. Кажан | 10 |
| Р. Станкевіч | 10 |
| Б. Грабінскі | 10 |
| В. і В. Рамук | 10 |
| Л. Норык | 10 |
| Н. Жызьнеўскі | 10 |
| А. Лашук | 10 |
| Я. Запруднік | 10 |
| Усяго | 155 |

*Заміж кветак на магілу с.п. Ксені Тумаш:*

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 100 |
| В. і М. Пашкевіч | 50 |
| В. і В. Рамук | 30 |
| М. Войтанка «у памяць дарагой сяброўкі» | 30 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| М. К. | 80 |
| С. Гутырчык | 60 |
| М. Прускі | 25 |
| Л. Шурак | 25 |
| П. Орса | 25 |
| Ю. Рэпэцкі | 25 |
| ЗБАВ | 25 |
| В. Макац | 20 |
| С. Дубоўскі | 20 |
| Т. Супрун | 20 |
| О. Грыцук | 20 |
| А. Субота | 10 |
| П. Кажура | 10 |
| А. Кажура | 10 |
| Я. Яновіч | 10 |
| А. Балкоўскі | 10 |
| А. Дубяга | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| Я. Сапежынскі | 10 |
| Я. Літвіненка | 10 |
| У. Харавец | 10 |
| Ю. Азарка | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| а. В. Андрэюк | 10 |
| А. Семенчук | 10 |
| Усяго | 485 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 100 |
| С. П. | 50 |
| А. Стрэчань | 50 |
| М. Стрэчань | 50 |
| К. Каляда | 35 |
| Я. Каваленка | 30 |
| К. Яцэвіч | 25 |
| В. Стрэчань | 25 |
| Я. Ханенка | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| Ю. Гасьцееў | 35 |
| Т. Кананчук | 25 |
| а. М. Страпко | 25 |
| С. Махахей | 25 |
| А. Сацэвіч | 25 |
| А. Яраховіч | 25 |
| П. Даймэн | 25 |
| К. Матальцкі | 25 |
| З продажу паасобнікаў | 68 |
| Усяго | 683 |

### КАНАДА

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля (415 ам.д. атрымана раней праз БАПЦ) | ам.д. 273 |
| Я. і І. Сурвіла | 200 |
| М. Ганько | 91 |
| К. Акула | 50 |
| О. Грыцук | 50 |
| В. Навіцкі | 50 |
| М. Шуст | 50 |
| М. Гаўрылюк | 50 |
| Арх. Мікалай | 42 |
| У. Целеш | 42 |
| А. Маркевіч | 30 |
| А. Аіе | 20 |
| Я. Скурат | 20 |
| Усяго | 968 |
| Р. Жук-Грышкевіч | кан.д. 100 |

### АНГЕЛЬШЧЫНА

*Праз нашага прадстаўніка сп. М. Баяроўскага:*

| | |
|---|---|
| С. Буткевіч | ам.д. 30 |
| М. Прошко | 15 |
| П. Мятла | 23 |
| У. Карніловіч | 15 |
| Я. Міхальчык | 30 |
| М. Баяроўскі | 35 |
| З. Стантон | 15 |
| Ф. Верамейка | 38 |
| П. Грыгальчук | 10 |
| Усяго | 211 |
| А. Лашук | ам.д. 50 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Я. Сяўковіча:*

| | |
|---|---|
| Заміж кветак на магілу с.п. А. Зданковіч: | анг. ф. 70 |
| ЗБВБ, Лёндан | ам. д. 25 |
| Ю. Хахолка | анг. ф. 15 |
| А. Зданковіч | ам.д. 10 |
| Я. Сяўковіч | ам.д. 10 |
| П. Чайкоўскі | анг. ф. 10 |

### АЎСТРАЛІЯ

*Праз нашага прадстаўніка сп. У. Акавітага:*

| | |
|---|---|
| М. Костышын | ам.д. 35 |
| У. Акавіты | 40 |
| А. Руткевіч | 25 |
| В. Міленцэвіч | 30 |
| В. Зеленеўскі | 25 |
| Я. Ролсан | 25 |
| П. Пачопка | 40 |
| а. М. Бурнос | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| Е. Трысмакова | 40 |
| Усяго | 360 |
| С. Стаськевіч (заміж кветак на магілу с.п. П. Трысмакова) | ам. д. 30 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі | аўстр. д. 100 |
| др. О. Качан | 60 |
| С. Яраховіч | 60 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| М. Антух | 50 |
| А. Бакуновіч | 50 |
| Ліза Бакуновіч | 50 |
| М. Бакуновіч | 50 |
| В. Кобрын | 50 |
| В. Ліпскі | 50 |
| М. Мілеўскі | 50 |
| С. Нарушэвіч | 50 |
| В. Русак | 50 |
| М. Сазановіч | 50 |
| К. Сіткоўскі | 50 |
| В. Стукач | 50 |
| А. Хаванская | 50 |
| Я. Гавенчык | 30 |
| З. Каліноўская | 20 |
| Усяго | 980 |
| Атрымана | ў ам.д. 880 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. М. Раецкага:*

Заміж кветак на магілу с.п. Аляксандра Мароза

| | |
|---|---|
| Парафія сьв. Пятра й Паўла ў Адэляйдзе | аўстр. д. 30 |
| К. Станкевіч | 30 |
| В. Зеленеўскі | 30 |
| а. М. Бурнос | 30 |
| У. Акавіты | 30 |
| Я. Ролсан | 20 |
| А. Туркевіч | 20 |
| У. Калесьніковіч | 5 |
| П. Хоменко | 5 |
| Ж. Юршо | 5 |
| П. Пачопка | 5 |
| П. Махалска | 5 |
| У. Шамшурын | 5 |
| Е. Кубрак | 6 |
| А. Краўчанка | 5 |
| Я. Дзівак | 2 |
| Т. Фралоў | 6 |
| К. Ранцэвіч | 5 |
| Д. Рудазоў | 2 |
| У. Фралоў | 3 |
| А. Чорнагалан | 2 |
| Усяго | 241 |
| Атрымана | ў ам.д.181.43 |
| М. Нікан | аўстр. д. 15 |
| М. Скабей | 15 |

Найшчырэйшая падзяка ўсім ахвярадаўцам, прадстаўніком, падпішчыкам!

**Выдавецтва «Беларус»**

### НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

| | |
|---|---|
| Адзьдзел БАЗА, Нью-Ёрк | аўстр. д. 77.00 |
| А. Сацэвіч | 62.50 |
| К. Калоша | 62.50 |
| С. Карніловіч | 62.50 |

*Шчыры беларускі дзякуй!*

**Адміністратар**

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ
# І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ
АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона й Юрка*
*Акула Надзея, Кастусь, Юрка й Альгерд*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*Андрэюк а. Васіль, матушка Вольга і дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Балкоўскія Зофія, Аляксей і Янка*
*Варэла Рагнеда, Кенэт, Язэп, Кіра й Ашлы*



*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Заморскія Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Зданковіч Алесь зь сям'ёй*
*Кажан Люба й Віталь, Маргарыта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя й Пётра*
*Кажура Элен, Альгерд і Янка*
*Калоша Кастусь*
*Каляда Клаўдзія й Юрка*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Кахаnоўская Яніна*
*Кіпель Марыя*



*Норык Кінуся, Лёня й дзеці*
*Орса Пётра зь сям'ёй*
*Орса-Рамана Ала й Франьціш, Павал і Коля*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Рамук Вера й Вітаўт зь дзецьмі*
*Сапежынскія Надзея й Мікола*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Семенчук Анна й Анатоль*
*Сільвановіч Міхась, Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Скабей Мікалай*



*Бартуль Вера, Франьціш і Антон*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Войтэнка Марыя*
*Грабінскі Балеслаў*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Чатыры сястрычкі: Ева, Люба, Соня, Вера і іхны брацік Адам (Гурын)*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра, Браніслаў і Эдзік*
*Дубяга Жэня, Алег, Юльян і Тамаш*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*



*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка*
*Кляйнбах Элеанора, Эмілія й Джашуа*
*Кулеш Ніна й Павал*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лужынскія Надзея, Міхась, Гэлена й Нэля*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мерляк Ганна, Кастусь і Вінцусь*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Муха Клава*
*а. Надсон Аляксандар*
*Найдзюк Юзэфа й Часлаў зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Нікан Лена й Мікола*



*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Станкевіч Джоан, Вячка й хлопцы*
*Станкевіч Раіса*
*Стома Ніна й Васіль*
*Прат а. Страпко Міхась зь сям'ёй*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвіла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Сьліўка Ўладзімер (Валодзя)*
*Сяўковіч Янка зь сям'ёй*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя, Уладзімер (Валодзя)*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Юхнавец Іра, Янка, Канстантын*
*Яновіч Валя й Янка*

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ**
вітае ўсіх сяброў і суродзічаў на Бацькаўшчыне
і за мяжой ды жадае ўсім
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ**
**І ШЧАСЬЛІВАГА Й ПАМЫСНАГА 1990 ГОДУ!**

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ УСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ
І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ
ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
*вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ**
**1990 ГОДАМ!**

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*Шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-Беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1989 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Сваёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*
*Ветліва просім пасылаць калядныя ахвяры на Кансысторыю БАПЦ.*

*BAOC (Attn. Mr. Silwanovich), 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904*

*За Вашую дапамогу будзем Вам шчыра ўдзячныя.*
*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*
*З даручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Архіепіскапа Мікалая*
**Архім. а. Карп Стар**

***ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ***
*жадае сваім сябром і прыхільнікам*
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ***
***І***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!***

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ (ЗША)**
*вітае ўсіх сваіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў*
**З КАЛЯДНА-НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае ўсякае памыснасьці*
*ў асабістым жыцьці і грамадзкай працы!*

***ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА***
***АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ***
вітае сваіх сяброўак і сяброў ды ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва з
***КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1990 ГОДАМ!***
Чакайце на нашых калядоўшчыкаў
*8 студзеня ў Нью-Джэрзы, а 14-га ў Нью-Ёрку!*

**УПРАВА ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ БАПЦ**
***у Гайленд-Парку, Н.-Дж.***
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў і прыяцеляў*
***З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ***
*ды жадае добрага здароўя*
*й шмат шчасьця ў НОВЫМ ГОДЗЕ!*

**УПРАВА АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ**
**ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**